# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ




№1 (272)
студзень 2025

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"








# "ЦІ ЧУЛІ ВЫ ПРА ЭМІГРАНТА ВІЛЬЧЫЦКАГА?.."

Кніга пра мінулае, якое стала будучыняй.

Толькі набыў вялізны фаліянт у цвёрдай вокладцы ды адчуў яго вагу ў заплечніку, і ў галаве закруцілася: "А на халеру?.." Калі гэта чытаць? Куды ставіць? А калі пераязджаць, то…? Урэшце, што можа распавесці ўсмешлівы сівы акулярык, які пазірае з вокладкі? Можа!

Янка Запруднік – інтэлектуальны гуру пасляваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША. Спец па Беларусі і СССР, якога цанілі амерыканцы. Журналіст "Свабоды", да голасу якога ў 1970-я праз глушылкі прадзіраліся беларусы. Гісторык, які працаваў у архівах і бібліятэках за акіянам, у пошуках свайго, беларускага. Чалавек, які доўгія гады тлумачыў на ўсіх узроўнях, што Беларусь – не Расія.

Дык што там пад вокладкай – кілаграм "суму па радзіме", як пісалі прапагандысты з БССР, пераконваючы ў другаснасці ўсяго, што напісана па-за межамі сацыялістычнай Беларусі? Не.

Праз дзённікі, лісты, нататкі, вершы, артыкулы раскрываецца карціна жыцця "тут" і "там" у часы "жалезнай заслоны". Усё гэта нагадвае сённяшнія дні: сваркі сярод эмігрантаў, замежная праца КДБ, цяжкасці легалізацыі, спроба знайсці сябе ў шырокім свеце.

### "Некалі вярнуся. Абдымаю, цалую!…"

"Дарагія мае! Не ведаю, што са мной будзе, калі паеду на Захад, але ведаю, што будзе тут. Таму выязджаю. Некалі вярнуся. Абдымаю, цалую!…" – такую развітальную цыдулку ў 1944 годзе Сяргей Вільчыцкі пакінуў бацькам, каб ніколі іх не ўбачыць. Яму 18. За плячыма – баранавіцкая гімназія ды Саюз Беларускай Моладзі, але гэтага хопіць, бо Саветы вяртаюцца.

Юнак апранае мундзір дапаможнай службы Люфтваффэ ды збіраецца ў падарожжа: на Захад.

У складзе дывізіі "Беларусь" ён будзе блукаць па Чэхаславаччыне, каб урэшце здацца амерыканцам і – застацца. Акурат у гэты момант "Сяргей Вільчыцкі" перастае існаваць. З'яўляецца Янка Запруднік.

Бо менавіта так гучыць імя і прозвішча чалавека, дакументы якога ўдаецца знайсці. Той Запруднік народжаны ў Вільні і старэйшы за Вільчыцкага на шэсць гадоў. Не страшна. Галоўнае, каб амерыканцы не выдалі ў СССР… Не выдалі. Значыць, ужо нічога не страшна.

Далейшая адысея распісаная ў кнізе "Дванаццатка", якая выйшла больш за 20 год таму. Гэта гісторыя пра 12 хлопцаў "без радзімы", якія шукаюць сябе ў пасляваеннай Еўропе. Тую кнігу Запруднік назваў "бутэлькай з пасланнем для маладых". Хто ж ведаў, што пасля 2020-га тое пасланне зноў стане актуальным.

Працяг на старонцы 7.

навіны

# ЯЎГЕН ВАПА І АЛЕГ ЛАТЫШОНАК АТРЫМАЮЦЬ КРЫЖ АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ (БРАТОЎ ЛУЦКЕВІЧАЎ)

Аб'яднаны Пераходны Кабінет прыняў рашэнне ўзнагародзіць шэраг выбітных асоб за адданасць інтарэсам беларускага народу і значны ўклад у развіццё беларускай культуры.

Медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў сваёй дзейнасці ўзнагародзяць Ніну Баршчэўскую – беларускую мовазнаўцу, грамадскую і культурную дзяячку.

Медаль "За плённую працу на карысць Беларусі" атрымаюць:

• Рафал Дзенцялоўскі – журналіст, палітычны аглядальнік;

• Анджэй Войцех Рахуба – польскі гісторык і грамадскі дзеяч, прафесар Інстытута гісторыі Польскай акадэміі навук;




• Анджэй Ежы Закшэўскі – польскі юрыст, гісторык права і грамадскі дзеяч;

• сем сябраў Геральдычнай Рады (непублічна).

Крыжом Адраджэння Беларусі (братоў Луцкевічаў) узнагароджваюцца:

• Яўген Вапа – беларускі журналіст, грамадскі дзеяч;

• Алег Латышонак – доктар гістарычных навук, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, выкладчык Беластоцкага ўніверсітэта.

budzma.org

# ПАЛІТВЯЗНЯ МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА ВЫЛУЧЫЛІ НА НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ МІРУ

Дэпутат Еўрапарламенту Пятрас Аўштравічус вылучыў Мікалая Статкевіча, палітзняволенага старшыню ліквідаванай уладамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", на прысваенне Нобелеўскай прэміі міру. Пра гэта 30 студзеня паведамілі ў партыі.

"Дэпутат Еўрапарламенту Пятрас Аўштравічус зарэгістраваў лідара беларускай апазіцыі Мікалая Статкевіча кандыдатам на прысваенне Нобелеўскай прэміі міру. Шалёная праца ў аўральным парадку па зборы матэрыялаў была праведзеная камандай „Народнай Грамады". І мы паспелі да заканчэння тэрміну прыёму заявак", – паведамілі ў прэс-службе партыі "Народная Грамада".

Міколу Статкевіча затрымалі 31 траўня 2020 года ў Менску і 14 снежня 2021 года асудзілі на 14 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах асаблівага рэжыму паводле ч. 1 арт. 293 КК ("Арганізацыя масавых беспарадкаў").

20 чэрвеня 2022 года Статкевіча перавялі з Гомельскага СІЗА № 3 у папраўчую калонію №13, адміністрацыя якой паставіла яго на ўлік як "схільнага да экстрэмізму", у жніўні змясціла на паўгода ў адзіночную камеру, у верасні – у штрафны ізалятар.

У студзені 2024 года стала вядома, што Статкевіч, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі № 13 у Глыбокім, змешчаны ў памяшканне камернага тыпу. Летась ён неаднойчы зазнаваў дысцыплінарныя спагнанні, таксама на яго сабралі матэрыял для крымінальнай справы паводле арт. 411 КК ("Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы").




3 лютага 2023 года Міколу Статкевіча ўтрымліваюць без сувязі з роднымі і вонкавым светам (рэжым інкамунікада).

Нобелеўская прэмія міру – узнагарода, якая штогод прысуджаецца Нобелеўскім камітэтам у Осла фізічным асобам і арганізацыям, якія, на думку камітэта, зрабілі выбітны ўнёсак у справу ўмацавання міру.

У 2022 годзе лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру стаў беларускі палітвязень, праваабаронца Алесь Бяляцкі. Ён атрымаў яе яе разам з разам з расейскай арганізацыяй "Мемарыял" і ўкраінскім Цэнтрам грамадзянскіх свабодаў.

svaboda.org




# АЛЕНА АНІСІМ ЦЯПЕР ПРАЦУЕ НАСТАЎНІЦАЙ

Былая старшыня ліквідаванага Таварыства беларускай мовы, экс-дэпутатка Палаты прадстаўнікоў больш за год не магла знайсці працу.

У 2023 годзе Алену Анісім затрымалі на працоўным месцы, а пасля прысудзілі 12 сутак арышту за "дробнае хуліганства". З-за гэтага яе звольнілі з Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук. Анісім расказала, што цяпер працуе настаўніцай.

"Я спрабавала ўладкавацца ў розных месцах, але нічога не атрымлівалася. Як прайшоў год пасля затрымання, пайшла ў РАНА. Ну што мне ўжо губляць? І там запыталася, ці ёсць у іх вакансіі настаўнікаў беларускай мовы. Высветлілася, што ёсць.

Мне далі спіс школ з вакансіямі і сказалі, што рашэнне будзе за дырэктарам.

Я пайшла да дырэктара адной са школ. Яна кажа: так, мне патрэбныя людзі. Мне трэба было ўзяць даведку з міліцыі пра тое, што яны да мне не маюць прэтэнзій. Карацей, 30 жніўня я афармілася, а 2 верасня ўжо выйшла на працу".

Без працы былая дэпутатка сядзела год і тры месяцы. Спрабавала ўладкавацца ў клінінгавую кампанію адміністратаркай, у рыелтарскае агенцтва.

Анісім кажа, што яе "адміністратыўка" за год была пагашаная.

"Зараз для працаўладкавання, асабліва калі ідзеш у дзяржаўныя структуры, трэба браць даведку, дзе пералічаны звесткі аб усіх правапарушэннях. Калі арганізацыя на прамую запытвае гэтыя даныя, то яны рыхтуюцца на працягу месяца. А калі сам звяртаешся, то такую даведку выдаюць на працягу 10 дзён. Каштуе гэтая папера палову базавай".

nashaniva.com

## ФОНД BYSOL ЗАЯВІЎ ПРА ПАВЕЛІЧЭННЕ СУМЫ ВЫПЛАТ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

Фонд BySol павялічвае выплаты палітвязням і тым, хто вызваліўся, да 1000 еўра.

"Год пачынаем добрымі навінамі! BySol уздымае суму выплаты палітвязням і вызваленым да €1000", – напісаў кіраўнік фонду Андрэй Стрыжак у Facebook.

Таксама заяўлена, што BySol сумесна з ByHelp працягваюць комплексна падтрымліваць экс-палітвязняў не толькі ў фінансавым фармаце, але і медыцынскім, псіхалагічным, а таксама эвакуацыйным.

У 2024 годзе на платформе BySol быў адкрыты 251 асабісты збор для пацярпелых ад рэпрэсій у Беларусі. На дапамогу ўдалося сабраць 619 363 еўра.

Асобна ў фондзе паведамілі, што не бяруць "ніякіх правізій ці адсотку ад дапамогі на зборах".

Падводзячы вынікі году, прадстаўнікі фонду паведамілі, што на сваім сайце яны арганізавалі 21 збор для беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне на суму 58 827 еўра. Гэта зборы на лячэнне, рэабілітацыю і набыццё тэхнікі.

Таксама фонд надаў дапамогу ў прамых закупках сумесна з партнёрамі фонду на суму 24 тысячы еўра.

svaboda.org




юбілей

# НОВЫЯ КНІГІ ДА ЮБІЛЕЮ 25-ГОДДЗЯ KAMUNIKAT.ORG!

У гэтым годзе Беларускай Інтэрнэт Бібліятэцы Kamunikat.org споўніцца 25 гадоў!

Будуць новыя кнігі, перавыданні і аўдыякнігі! Новымі публікацыямі папоўняцца рэсурсы інтэрнэт-бібліятэкі.

Фонд Kamunikat.org адзначыць гэты юбілей між іншым выданнем чарговых беларускіх кніг. Ужо неўзабаве з'явіцца другое выданне рамана Уладзіміра Някляева "Гэй Бэн Гіном".

"З гэтай кнігі, дарэчы, у 2021 годзе пачалася наша выдавецкая дзейнасць, – гаворыць кіраўнік Фонду Яраслаў Іванюк. – Мы правялі тады шэраг прэзентацыяў з удзелам аўтара і Зміцера Вайцюшкевіча. Раман карыстаўся вялікай папулярнасцю і цяпер прыйшоў час зрабіць другое выданне, бо падчас розных кірмашоў чытачы пытаюць пра гэтую кнігу".

"Гэй Бэн Гіном" значыць "геена вогненная". Гэта раман пра Беларусь і беларусаў. Пра Янку Купалу. Пра ягоны лёс, таямніцу ягонай гібелі ў гатэлі "Масква". І аўтар вядзе нас да гэтай таямніцы. Але ці адкрывае яе поўнасцю..?

Апрача гэтага, аддадзены ў друк новы раман Андрэя Федарэнкі "Сцэнарыст", у якім аўтар працягвае тэму аналізу прыроды творчасці, пачатую ў папярэдняй яго кнізе "Жэтон на метро". Сюжэт закручаны па-майстэрску, тэкст насычаны жыццёвай філасофіяй, трапнымі выразамі і назіраннямі. "Сцэнарыст" – сапраўдны дэтэктыў і адначасова драма з непрадказальным фіналам.

Неўзабаве выйдзе таксама кніга Лявона Карповіча "Апавяданні паштовых марак пра Вялікае Княства". Гэта будзе незвычайнае падарожжа ў гісторыю нашай краіны. Таму ў кнізе можна сустрэць тое, чаго няма ў навуковых выданнях, але і адсутнічаюць многія падзеі, бо іх няма на марках. Кніга для зацікаўленых гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага і для філатэлістаў як дапаможнік па стварэнні калекцыі.

Урэшце, у выдавецтве трываюць таксама працы над падрыхтоўкай зборніка п'ес выдатнага беларускага драматурга, сябра журы прэміі імя Ежы Гедройця, Сяргея Кавалёва "Камедыя Юдзіфі". У кнігу ўвойдуць новыя п'есы Сяргея Кавалёва, напісаныя ў розных жанрах: гістарычная драма, філасофская камедыя, містычны дэтэктыў, гарадское фэнтэзі, казка-прыпавесць. Верны свайму герменеўтычнаму метаду, драматург плённа выкарыстоўвае ў сваіх п'есах матывы і сюжэты беларускай і сусветнай літаратуры, побач з героямі класічных твораў выводзіць на сцэну іх аўтараў (Яна Баршчэўскага, Вацлава Ластоўскага і інш.), запрашае чытача, а потым і гледача, у падарожжа праз краіны, эпохі, культуры.

Чакайце новых кніг! Усе яны будуць даступныя ў інтэрнэт-кнігарні Kamunikat.shop

kamunikat.org

# 4 ГАДЫ ПРАЦЫ ВА УКРАІНЕ АДЗНАЧАЕ ФОНД "ВІЛЬНА БІЛОРУСЬ"

11 студзеня споўнілася чатыры гады з моманту заснавання арганізацыі, якая пачынала сваю працу як "Беларускі крызісны цэнтр у Львове". Сёння гэта Фонд "Вільна Білорусь" – структура, якая стала надзейнай апорай для беларусаў, вымушаных пакінуць радзіму, і сімвалам салідарнасці з украінскім народам.




Дырэктар фонду Аляксей Францкевіч так каментуе гэтую дату:

– Можна ганарыцца на сённяшні дзень, што мы тут, ва Украіне. Мы працягваем сваю працу. Наш досвед гэта тое, што ўвесь гэты час, за 4 гады мы фінансуемся выключна беларусамі, і беларусамі якія знаходзяцца тут ва Украіне. Мы адкрылі ў Львове "Дом вольнай Беларусі", стварылі музей. Па магчымасці мы дапамагалі і дапамагаем усім, хто да нас звяртаецца.

Фонд "Вільна Білорусь" выказвае шчырую падзяку валанцёрам, партнёрам і ўсім, хто падтрымліваў яго на працягу гэтых гадоў.

Сярод апошніх дасягненняў Фонду – удзел у спатканні прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў Украіны з прэзідэнтам Уладзімірам Зяленскім, а таксама супраца з Палком Каліноўскага ў аказанні дапамогі дзецям беларускіх добраахвотнікаў.

racyja.com




## ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG ЗАЙМЕЛА АПЛІКАЦЫЮ ДЛЯ ПРАСЛУХОЎВАННЯ АЎДЫЯКНІГ У IPHONE

Пра з'яўленне ў найбуйнейшай беларускай інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org аплікацыі для праслухоўвання аўдыякніг ў iPhone паведаміў Яраслаў Іванюк на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Аплікацыю, якая працуе таксама і з Беларусі, можна запампаваць у App Store.

Аплікацыі для Android пакуль няма, але яна будзе, абяцае Яраслаў Іванюк у каментарах да допісу.

Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org – гэта найбуйнейшая беларуская online-бібліятэка ў свеце, дзе сабрана ўжо амаль 60 000 розных беларускіх публікацый (кнігі, аўдыякнігі, газеты, часопісы, відэа і іншае).

budzma.org

рэпартаж

# У ВАРШАВЕ З УДЗЕЛАМ СВЯТЛАНЫ ЦІХАНОЎСКАЙ АДБЫЎСЯ ФОРУМ "БЕЛАРУСЫ ГОДНЫЯ ЛЕПШАГА"




Форум пачаўся з выступу "Вольнага Хору".

Затым з прамовай выступіла кіраўніца Аб'яднанага пераходнага кабінета Святлана Ціханоўская.

"Беларусь не будзе цікавая іншым, пакуль яна для нас не будзе цікавай… Нягледзячы на спробы раз'яднаць нас, мы па-ранейшаму застаёмся разам", – адзначыла дэмакратычная лідарка.

Сярод іншага яна падзякавала беларусам, якія застаюцца ўнутры краіны, і тым, хто змагаецца на фронце ва Украіне.

"Дзякуй вам вялікі за працу, якую вы робіце", – падкрэсліла яна і зазначыла, што "трэба працягваць працу":

"Гэта наша з вамі адказнасць – вызваліць людзей з турмаў".

Яна таксама працытавала словы лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру, праваабаронцы і палітычнага вязня Алеся Бяляцкага:

"Я не баюся, хай баяцца яны. І пераадолець страх нашмат прасцей, калі ты не адзін".

Потым на сцэну выйшаў кіраўнік Народнага антыкрызіснага ўпраўлення Павал Латушка і пачаў з верша Уладзіміра Караткевіча "Можна ўсё: пусціць каханне дымам…".

Латушка заявіў: "Некаторыя кажуць: давайце адмовімся ад свабоды, каб захаваць уяўную незалежнасць. Але хто будзе абараняць гэтую незалежнасць?" – задаўся ён пытаннем.

"Не будзе незалежнай Беларусі, калі мы не даб'емся свабоды, – падкрэсліў ён. – Птушка ў клетцы не спявае. Нельга ўявіць свабоду без адказнасці. Давайце ўявім свабодных людзей, над якімі няма прыгнёту. Такой сітуацыі не можа быць у жыцці. Таму мусіць быць адказнасць".

Латушка заявіў, што быў шчаслівы бачыць у Варшаве і іншых краінах свету столькі беларусаў: "Усе яны прагнуць свабоды і справядлівасці. Дзякуй вам, што вы ёсць", – сказаў палітык. "Мы чулі, як нам кажуць: давайце станем на калені. Але мы не сталі на калені. І не станем", – падсумаваў кіраўнік НАУ.

Пасля запрасілі выступіць спікерку Каардынацыйнай рады Анжаліку Мельнікаву. Яна расказала, што днямі пройдзе дзень выпускнікоў, які яна звычайна вельмі любіла, і расказала, што ёй цяжка асэнсоўваць тое, што яна не можа быць побач са сваімі знаёмымі ў Беларусі:

"Я не планавала з'язджаць з краіны. Але ўпэўненая, што мы будзем дома, якія б сцены ні пабудавалі. Мы павінны памятаць, што кожны з нас можа зрабіць свой унёсак у вольнасць Беларусі".

Напрыканцы свайго выступу Анжаліка Мельнікава выканала песню "Слуцкія ткачыхі" Максіма Багдановіча. "Зрабіце гучней мікрафон. Хачу, каб пачулі ў Беларусі", – папрасіла арганізатараў Анжаліка.

"Што сказаць беларусам, якія глядзяць нас з беларускіх турмаў?" – задаўся пытаннем кіраўнік апарату Аб'яднанага пераходнага кабінета Валер Мацкевіч.

"Я веру, што ўвесь свет назірае за намі, за вамі, беларусы. Але мы сёння сабраліся, каб паказаць усяму свету, што мы нязломныя, – сказаў ён. – Перакананы, што мы годныя лепшага".

Сярод іншага, Валер Мацкевіч анансаваў праект фонду сацыяльнай падтрымкі беларусаў.

"Мы прапануем запуск фонду, каб забяспечыць устойлівы варыянт дапамогі. Кірунак – медычная дапамога і гуманітарная падтрымка, – сказаў Мацкевіч.

"Калі Беларусь стане свабоднай, гэты досвед ляжа ў аснову новай сацыяльнай палітыкі нашай дэмакратычнай дзяржавы", – дадаў ён.

Можна было заўважыць вядомых беларусаў, якія адмыслова прыехалі ў Варшаву, каб узяць удзел у форуме. Шмат людзей прыйшлі ў масках.

Пазней з відэазваротам да прысутных звярнуўся камандзір палку Каліноўскага Павал Шурмей:

"Мы зрабілі свой выбар, кожны знішчаны акупант – гэта барацьба за свабоду. Вайна ва Украіне – гэта не нейкі далёкі канфлікт. На нас рухаецца зло, якое прынясе смерць, гвалт і знішчэнне. Час словаў скончыўся – зараз час дзеянняў".

"Беларус беларусу беларус – мы забыліся пра гэта, – адзначыла ў сваім выступе беларуская блогерка Таццяна Мартынава, якая жыве ва Украіне. – Не важна, наколькі вам дрэнна і наколькі вам добра, так будзе не заўсёды. Рыхтуйцеся да таго, што будзе ці лепш, ці горш. І таму нясіце грошы да сваіх, дапамагайце сваім. Памятайце, што тады яны дапамогуць вам. Я хачу, каб сёння ўсе пачулі, мы раскіданыя па ўсім свеце, і толькі мы можам адно аднаго выцягнуць. Нават калі мы ніколі не вернемся дадому".

У перапынку між прамовамі "Вольны хор" выканаў песню на словы Сяргея Ціханоўскага, напісаныя за кратамі.

"Жыве Беларусь!" – крычалі ўсе.

Музыкі заспявалі таксама "Грай" і рэлігійны гімн "Магутны Божа!". Падчас выканання "Пагоні" ўсе ўсталі.

На сцэну выйшаў дарадца Ціханоўскай Франак Вячорка і паказаў пашпарт "Новай Беларусі".

Ён адзначыў: "Сёння няма ў міжнародным праве ніякага прэцэдэнту, ад якога мы дакладна маглі адбівацца. Мы праходзім гэты шлях упершыню, і мы шукаем намацаныя магчымасці вырашэння для таго, каб гэты пашпарт не толькі быў сімвалічным дакументам, але й меў практычную карысць. Дэмакратычныя сілы, Кабінет і Офіс – мы працуем над двума рашэннямі. Першае рашэнне – тэрміновае, і гэта застаецца нашым прыярытэтам, – гэта вырашэнне пытанняў з легалізацыяй, пашпарты замежніка, каб не патрабавалі апастылю, каб вы маглі атрымліваць ДНЖ і міжнародную абарону. Гэта застаецца нашым прыярытэтам. Каб тыя беларусы, якія цярпяць ад пераследу рэжыму, не пакутавалі ў іншых краінах ад таго, што робіць Лукашэнка. Але ёсць рашэнне доўгатэрміновае, і мы яго будзем рабіць у любым разе, мы яго павінны давесці да канца. Гэты пашпарт не заменіць пакуль што вашых ДНЖ і пашпартоў замежнікаў, але гэты пашпарт – гэта задзел на будучыню. Магчыма, можа так і будзе, што гэты пашпарт вернецца ў новую дэмакратычную Беларусь. Рабіць яго трэба з задзелам на доўгую будучыню. І тое, што ён біяметрычны, тое, што ён электронны, дазволіць яму быць актуальным і тры, і пяць, і дзесяць год наперад.

Пра вырашэнне кароткатэрміновае вы ведаеце, што гэтая праблема ў розных краінах выглядае па-рознаму. І шэраг краін спрасцілі ў мінулым годзе дзякуючы працы дэмсілаў умовы атрымання дакументаў. Дзесьці беларусы ўжо атрымалі пашпарты замежнікаў, і наступныя паўгода часткова выдачы гэтых дакумэнтаў пабольшае, паскорыцца.

Але ўсё роўна большыня еўрапейскіх краін, не кажучы пра Каўказ, не кажучы пра Балканы, не выдае такія дакументы. Мы будзем змагацца, каб наш пашпарт меў статус, дзе няма тэрміновага вырашэння для беларусаў. Што гэты пашпарт значыць і што ён робіць? Безумоўна, сімвалічная роля, але якая важная роля! Нават сімвалічныя рэчы маюць вельмі вялікае значэнне".

Паводле Франка Вячоркі, на сайце беларускага пашпартнага цэнтру ўжо цяпер адкрыты збор заявак. Пачынаецца нарошчванне базы, не чакаючы афіцыйнага прызнання. Пашпартны цэнтр працуе ў Вільні, "але ў перспектыве ёсць задача адкрыць цэнтры ў Польшчы і ў Украіне, па магчымасці".

Вячорка паведаміў, што сёння пачынаецца перадзамова пашпартоў.

Кіраўнік Фонду BySol Андрэй Стрыжак асаблівую ўвагу ў сваёй прамове аддаў "тром С", якія для яго – частка будовы ягонай уласнай асобы: салідарнасць, свабода і справядлівасць. Ён звярнуўся да беларусаў унутры краіны, якіх прымушаюць ісці на выбарчыя ўчасткі:

"Вы мусіце ведаць: калі вы туды пайшлі, то вы не з'яўляецеся саўдзельнікамі злачынства. Тое, што ўнутры вас, ніхто гэтага не адбярэ".

На Форуме, сярод іншых, выступілі сябра Каардынацыйнай рады Алана Гебрэмарыям, блогерка Аляксандра Ханевіч, прадпрымальнік Аляксандар Кныровіч, прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці і ініцыятывы dissident.by, а таксама Яўген Брыцько, бацька адзінаццацігадовай Касіі, якой сабралі амаль 11 тысяч еўра, каб яна не страціла зрок.

Таксама на форуме выступілі палітоляг Роза Турарбекава, рэжысёр Андрэй Гнёт, паэтка Валярына Кустава. Закрыў форум сваім выступам музыка Лявон Вольскі.

svaboda.org

навіны

# ДВА ГАДЫ ІСНАВАННЯ АДЗНАЧЫЎ ВІЛЕНСКІ КЛУБ САЦЫЯЛЬНЫХ ТАНЦАЎ "ВАЛОШКА"

Два разы на тыдзень беларусы збіраюцца ў некалькіх беларускіх прасторах, каб танцаваць беларускія танцы і танцы іншых еўрапейскіх народаў. Гэта такі своеасаблівы рэлакс у паўсядзённасці эміграцыі.




Кіраўніца клуба Эла Мацвіенка апавядае, з чаго ўсё пачыналася.

**– Вашаму клубу сацыяльных танцаў ужо два гады. Раскажыце, калі ласка, як усё пачыналася. Колькі чалавек было спачатку, колькі цяпер, хто складае асноўны касцяк і якія танцы больш за ўсё падабаюцца людзям, якія вы часта танцуеце?**

– Пачыналася ўсё з таго, што мне самой вельмі не ставала нейкай разнастайнасці, і з'явілася магчымасць арганізаваць нешта на валанцёрскай аснове. Мы знайшлі памяшканне – гэта якраз Reform Space, які знаходзіцца на Ужупісе, і зрабілі адну сустрэчу, потым другую. Пэўная колькасць людзей пачала прыходзіць, каму гэта было цікава, і мы пачалі спачатку збірацца раз на тыдзень. Мы пачалі ў студзені, да лета збіраліся, потым на лета зрабілі перапынак. У верасні мы зрабілі нейкі апгрэйд.

Частка тых людзей, якія хадзілі спачатку, ужо больш не прыходзіць. Хтосьці з'язджае, хтосьці прыязджае, з'явіліся новыя людзі, новая хваля. Мы займаліся зімовы сезон, а потым улетку пачалі рабіць такія выходныя танцавальныя сустрэчы ў Бернардзінскім садзе на свежым паветры. Ну і з восені гэта ўсё працягваецца. Цяпер у нас атрымліваецца стабільна два разы на тыдзень сустрэчы, плюс раз на месяц робім нейкую імпрэзу, якое прыцягвае больш людзей. Гэта для тых, хто, можа, не ходзіць на рэгулярныя заняткі, але раз на месяц ім цікава.

**– Я, напрыклад, прыйшла да вас таму, што даведалася, што вы танцуеце беларускія танцы. Ці гэта цікава нашай беларускай супольнасці – усё ж такі беларускія танцы?**

– У цэлым так, але практыка паказала, што калі сустрэча міксавая, то бок ёсць пэўная колькасць беларускіх танцаў, ёсць пэўная колькасць нейкіх павольных вальсаў, якія ствараюць прыемную рэлаксацыйную атмасферу. Ёсць таксама танцы з іншых культур, якія адрозніваюцца і па сваёй структуры, і па музычнай частцы. Я заўважыла, што калі гэта не чыста беларуская імпрэза, а імпрэза, што складаецца з розных частак, як нейкая мазаіка, то яно прыцягвае больш людзей. Гэта не значыць, што людзям не цікавая беларуская культура, але ім хочацца нейкай разнастайнасці.

**– Я заўважаю, што вы падтрымліваеце сувязі з літоўцамі, ходзіце на іх танцавальныя вечарыны, таксама з латышамі. Частка вашай групы ездзіць на танцавальныя імпрэзы. Раскажыце, калі ласка, пра гэтыя сувязі, якія ў вас склаліся.**

– Насамрэч гэта ўсё не на нейкім афіцыйным роўні. Тут хутчэй размова пра тое, што людзі, якія да нас пачалі прыходзіць, адчулі сябе больш разняволенымі і пачалі браць удзел у імпрэзах, якія ладзяць літоўскія танцавальныя супольнасці. А людзі з гэтых літоўскіх супольнасцяў запрашаюць кудысьці далей.

Тыя, у каго ёсць час і магчымасць, і хто ўжо не мае комплексаў, тыпу "як я пайду ў незнаёмае месца да незнаёмых людзей і пачну танцаваць", карыстаюцца гэтымі магчымасцямі і атрымліваюць ад гэтага задавальненне. Гэта вельмі добра, бо пашырае кругагляд і ўвогуле трымае людзей у добрым станоўчым тонусе.

racyja.com

# ДАЛЁКАЕ І БЛІЗКАЕ СПАЛУЧЫЛАСЯ НА ВЫСТАВЕ АЛЯКСЕЯКАСІНЦА

14 студзеня Цэнтр беларускай культуры Дома адзінства (ЦБК) новы творчы год адкрыў персанальнай выставай карцін ліепайскага самадзейнага мастака Аляксея Касінца "Далёкае і блізкае".



Аляксей Касінец родам з в. Гаршчэўшчына (Віцебская вобласць). У 70-я гады па размеркаванні прыехаў працаваць у Ліепаю, дзе і асталяваўся. Маляваннем захапляецца са школы, але сур'ёзна займацца жывапісам пачаў толькі на пенсіі. Піша ў стылі рэалізму, маслам, на палатне ці кардоне.

Гэта трэцяя выстава А. Касінца ў Даўгаўпілсе: карціны ўжо выстаўляліся на фестывалі "Беларускі кірмаш у Даўгаўпілсе" ў 2023 годзе, а таксама ў Дзённым цэнтры "Saskarsme" ў 2024 годзе.

На выставе прадстаўлена каля 30 карцін, сярод якіх пейзажы, нацюрморты і партрэты. Аўтар прадэманстраваў свае работы, на якіх адлюстраваны дарагія сэрцу мясціны як у Беларусі, так і ў Латвіі, расказаў аб сваім жыццёвым і творчым шляху.

З адкрыццём выставы мастака павіншавалі кіраўніца ЦБК Жанна Раманоўская, даўгаўпілскія мастакі Вэлта Лоцэ і Пётр Лаўрэнаў, госці вечара. Музычны падарунак падрыхтавала харавая капэла "Спадчына" (кіраўнік Сяргей Братусеў), якая выканала тэматычныя песні на беларускай мове.

Марыя Памецька, bkc.daugavpils.lv

інсталяцыя

# “ГЭТАЯ ВЫСТАВА – ЗАКЛІК ДА ДЗЕЯННЯ”. У РЫЗЕ АДКРЫЛАСЯ АРТ-ІНСТАЛЯЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫМ ВЯСНОЎЦАМ

У цэнтры Рыгі 16 студзеня адкрылася арт-інсталяцыя “Нязломныя”, прысвечаная палітзняволеным праваабаронцам “Вясны” Валянціну Стэфановічу, Алесю Бяляцкаму, Уладзю Лабковічу, Марфе Рабковай, Андрэю Чапюку, якія былі пакараныя за дапамогу людзям у адстойванні сваіх правоў і годнасці. Паказ арт-інсталяцыі ў Рызе адбываецца ў знакавы час: 26 студзеня ў Беларусі адбудуцца чарговыя выбары*, якія насамрэч увасабляюць адсутнасць у людзей свабоды і голасу ў сваёй краіне, і пройдуць фактычна без альтэрнатыўных кандыдатаў, у атмасферы страху і прыгнёту. У гэты час за кратамі знаходзяцца сотні палітзняволеных, сярод якіх праваабаронцы “Вясны”, якія заўсёды змагаліся за правы людзей і супрацьстаялі бяспраўю ў Беларусі. Наведаць яе можна да 16 лютага на плошчы Latviesu strelnieku laukums.



Адкрыццё арт-інсталяцыі #FreeViasna адбылося пры падтрымцы Асацыяцыі беларусаў і беларусак Латвіі Supolka. У яе адкрыцці прынялі ўдзел віцэ-мэр Рыгі Лінда Озала, намеснік старшыні парламенцкай групы падтрымкі дэмакратычнай Беларусі Юрыс Вілюмс, дырэктарка латвійскага музея акупацыі Салвіта Віба, прадстаўніца Праваабарончага цэнтра “Вясна” Любоў Ланіна. На адкрыцці таксама прысутнічалі прадстаўнікі Парламенцкай групы падтрымкі дэмакратычнай Беларусі, якая працуе ў Сейме Латвіі, прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў Латвіі, былы амбасадар Швецыі ў Беларусі, прадстаўнікі амбасады Францыі ў Рызе.

Інсталяцыя заклікае звярнуць увагу на праваабаронцаў, несправядліва асуджаных за дапамогу іншым і выкананне праваабарончай місіі, а таксама праз іх – на ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі. Металічная кампазіцыя сімвалізуе нязломнасць духу, адданасць дэмакратычным каштоўнасцям, правам чалавека. Нагадвае пра неабходнасць штодзённай барацьбы за свабоду ўсіх палітвязняў, у тым ліку праваабаронцаў “Вясны”.

На ўрачыстым адкрыцці віцэ-мэр Рыгі Лінда Озала адзначыла падобны досвед савецкай акупацыі Латвіі і Беларусі, але іх вынік цалкам адрозніваецца:

“Латвія вярнулася ў сям’ю заходніх краін, у той час як беларускі дыктатар Лукашэнка трымае беларускі народ у палоне, іншадумцаў садзіць у турмы, а да нашых межаў накіроўвае натоўпы нелегальных мігрантаў. Але беларускі народ – не народ рабоў, што яскрава паказалі падзеі пасля апошніх скрадзеных выбараў. Я не веру ў выбары беларускага дыктатара, я веру ў Адраджэнне беларускага народа – і мы са свайго боку зробім усё, што ў нашых сілах, каб яно наступіла як мага хутчэй”.

Намеснік старшыні парламенцкай групы падтрымкі дэмакратычнай Беларусі Юрыс Вілюмс, які з’яўляецца “хросным” палітзняволенага Руслана Слуцкага, узгадаў падзеі 2020-га:

“Я вельмі добра памятаю падзеі пачатку жніўня 2020 года. Гэта быў час радасці і натхнення – здавалася, што ў хуткім часе, калі не ў найбліжэйшыя гадзіны, то ў найбліжэйшыя дні, лёд нарэшце праломіцца, і рэжым Лукашэнкі страціць уладу. 23 жніўня, у дзень гадавіны падпісання пакта Молатава-Рыбентропа і Балтыйскага шляху, мы правялі сімвалічную акцыю падтрымкі дэмакратычнай Беларусі – прайшлі маршам уздоўж беларускай мяжы, які завяршыўся ў П’едруі, на беразе Дзвіны. Тады нават у Латвіі адчуваліся страх і асцярожнасць – некаторыя баяліся адкрыта выказваць падтрымку, бо за мяжой былі сябры, сваякі, за чый лёс хваляваліся. Прайшло ўжо больш за пяць гадоў. На жаль, і сёння ў Латвіі мы часам бачым, што людзі баяцца адкрыта выказваць сваё меркаванне, але ў Беларусі гэта ўвогуле немагчыма. Мы цяпер не можам істотна паўплываць на сітуацыю. Мы можам выказваць меркаванні, асуджаць дзеянні рэжыму, але гэта толькі словы… Часам гэта прыводзіць да адчаю, бо мы гаворым, але не можам істотна змяніць рэальнасць. У міжнародным кантэксце нават ладзілі акцыі, калі людзі, не знаходзячы новых слоў, выходзілі на трыбуну, рабілі глыбокі ўдых і крычалі – гучна і доўга! Каб выказаць эмоцыі, каб перадаць той вар’яцтва, якое ўжо не апісваецца словамі”.

Юрыс Вілюмс прапанаваў зладзіць хвіліну маўчання, каб ушанаваць памяць пацярпелых ад дзеянняў рэжыму Лукашэнкі.

Праваабаронца “Вясны” Любоў Ланіна сказала падчас свайго выступу:

“Мэта гэтай інсталяцыі – звярнуць увагу на беларускіх праваабаронцаў за кратамі і праз іх – на тысячы палітычных зняволеных і ахвяр рэпрэсій. Партрэты нашых калег, створаныя з металічных пруткоў, сімвалізуюць цяжкія ўмовы іх жыцця ў турмах, але таксама адлюстроўваюць іх нязломную сілу і мужнасць у змаганні за правы чалавека. Мы павінны паказаць такую ж стойкасць і адданасць дэмакратычным каштоўнасцям і правам чалавека”.

Праваабаронца нагадала пра пераслед і ціск на палітзняволеных вясноўцаў. Асобна яна распавяла гісторыю палітзняволенай каардынаткі Валанцёрскай службы “Вясны” Марфы Рабковай:

“У нас шмат агульнага: мы прыкладна аднаго ўзросту, вялі падобны лад жыцця, жылі ў Мінску. Але Марфа пазбаўлена свабоды і асуджана на 15 гадоў зняволення. У турме яна страціла бацьку і бабулю, не маючы магчымасці развітацца. Яе здароўе пагаршаецца, і яна пазбаўлена належнай медыцынскай дапамогі.

Марфа і іншыя праваабаронцы “Вясны” несправядліва абвешчаныя “экстрэмістамі” і “тэрарыстамі” толькі за тое, што яны абараняюць правы чалавека і дапамагаюць людзям. Сёння яны самі маюць патрэбу ў нашай дапамозе і падтрымцы. Гэтая выстава – заклік да дзеяння: штодзённа змагацца за іх свабоду.

Нягледзячы на пераслед, мы працягваем праваабарончую працу. Асабліва гэта важна цяпер, калі Беларусь набліжаецца да так званых прэзідэнцкіх выбараў 26 студзеня. Гэтыя выбары, што праводзяцца ва ўмовах страху і рэпрэсій, з больш чым тысячай палітвязняў за кратамі, нельга назваць дэмакратычнымі, свабоднымі або законнымі”.

Арт-інсталяцыю таксама наведалі прадстаўніцы Support group for Democratic Belarus Яна Сіманоўска, Майрыта Лусе і Лэйла Расіма, якія з’яўляюцца “хроснымі” палітзняволеных Сяргея Пляшкуна, Яўгена Верхаводкіна, Алы Сакаленкі.

Арт-інсталяцыя “Нязломныя” створана ў межах кампаніі салідарнасці з палітзняволенымі праваабаронцамі “Вясны” #FreeViasna. Паказ у Рызе стаў магчымы дзякуючы супрацоўніцтву з Асацыяцыяй беларусаў Латвіі “Supolka”. Праект ужо быў прадстаўлены ў Брусселі (Бельгія), Капенгагене (Данія), Берліне (Германія), Познані (Польшча) і Вільні (Літва).

spring96.org

адукацыя

# “МЫ ХОЧАМ, КАБ БЫЎ ПЕРСАНАЖ, ЯКІ Б СУПРАВАДЖАЎ ДЗЯЦЕЙ НА ЗАНЯТКАХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ”

“Трэба рабіць сваё”, – так кажа на racyja.com настаўніца беларускай мовы Ганна Комінч. Разам з калегамі яна стварыла новага адукацыйнага героя – Зубраня, які дапамагае падляшскім дзецям вывучаць беларускую мову праз забаву і без прымусу.

**– Новы герой для беларускіх дзетак на Падляшшы – Зубраня. Што гэта за герой?**

– Пакуль што гэта персанаж папкі, спадзяюся, што не толькі, бо ў нас ёсць іншыя планы. І мы хочам, каб гэта быў персанаж, які б суправаджаў дзяцей на занятках беларускай мовы. І папка – гэта было найпрасцейшае, з чаго трэба было пачаць і на што быў, дарэчы, запыт у настаўнікаў беларускай мовы. Але, як мне падаецца, далей трэба ісці ў такое нешта інтэрактыўнае, можа, нават музычнае і забаўляльнае і танцавальнае, каб гэтыя заняткі беларускай мовы зрабіць яшчэ больш разнастайнымі. І гэта вынікае проста з таго раскладу, які дзеці маюць у школе. Таму што заняткі беларускай мовы робяць, па-першае, гэты навучальны дзень даўжэйшым, а, па-другое, ён атрымліваецца ў некаторых школах такі доўгі, як звычайна ў студэнтаў.




**– То бок гэта звычайна апошнія нейкія заняткі?**

– Гэта не заўсёды апошнія, часамі – першыя, часамі – апошнія, але здараецца, што праз гэтыя заняткі беларускай мовы ў дзяцей, напрыклад, восем гадзін у дзень. І прычым можа быць так, хоць гэта вельмі непажадана, што тры гадзіны беларускай мовы запар. І вось, што хочаш, тое і рабі, як называецца.

І вядома, што тры акадэмічныя гадзіны беларускай мовы не вытрымаў бы ў такіх умовах нават студэнт. Можа б і вытрымаў, але гэта было б не якаснае навучанне. І ў такіх умовах трэба проста карыстацца іншымі формамі, да якіх мы і ідзём.

**– Для чытачоў крыху канкрэтызую, што Зубраня – гэта такія заданні для навучання і забавы. Гэта такая папка з заданнямі, якая трапіла, напэўна, ужо ў большасць школ на Падляшшы, дзе беларуская мова вывучаецца. Так я разумею?**

– Так, яно сапраўды так і ёсць. Прычым я скажу адразу, што ідэя зрабіць нешта ўзнікла ў нас даволі даўно, але што ў выніку атрымалася, ніхто не сказаў бы нават летам. Бо спачатку меў быць у нас часопіс, потым аказалася, што гэта ў дадзеных умовах складана і проста не хапае людзей у камандзе. І хацелі зрабіць каляраванку, бо такі быў запыт настаўнікаў, але каляраванка ўжо для мяне сумна, таму што каляраваць можна ўсё, што заўгодна, а тут трэба было зрабіць, калі ўжо каляраванку, то з мінімальным беларускім тэкстам і з заданнямі, рэбусамі, галаваломкамі.

Яна Запольская, racyja.com

# “ЦІ ЧУЛІ ВЫ ПРА ЭМІГРАНТА ВІЛЬЧЫЦКАГА?..”

Працяг са старонкі 1.

### “Быў у Савёнкаў, з’еў баршчу, выпіў чарку”

Запруднік – працаголік. Навуковая і грамадская праца, радыё, аналітыка, нон-стоп сустрэчы і паездкі. Выбіраючыся з Мюнхена ў ЗША, ён чакаў палёгкі, але наўпрост перавёз свой стыль жыцця за акіян. У зборніку пададзены дакумент часу: дзённік сустрэчаў Запрудніка з беларусамі-эмігрантамі ў Амерыцы пачатку 1950-х.

“Быў у Савёнкаў, з’еў баршчу, выпіў чарку” – гэта гісторыя эміграцыі без гальштукаў. Без званняў, дыпломаў, хто старшыня, а хто – цэлы прэзідэнт. На адным з фота – цесная куханька ў Нью-Ёрку 1950-х. За сталом Наталля Арсеннева і Франц Кушаль. Яблыкі, халадзільнік, друкарка. Ён ліфцёр, яна – супрацоўніца кансервавага завода. Мундзір палкоўніка і рэгаліі вядомай паэткі застаюцца па-за кадрам.

На нейкім чарговым кангрэсе Кушаль называе апанентаў “правакатарамі і агентамі”. Знаёмая лексіка, праўда? Наогул калі замяніць БЦР, БНР, БАЗА ды ЗБВБ на назвы сучасных эмігранцкіх структураў, акажацца, што нічога новага пад сонцам няма: усе свараццa і вінавацяць адно аднаго. Дакладна “пасланьне ў бутэльцы”!

Цікавыя дробязі: завітаўшы ў госці, людзі глядзяць фота. Сёння цяжка ўявіць сабе значэнне кавалачкаў паперы, якія былі адзіным мастком паміж людзьмі, паміж “там” і “тут”, адзіным напамінам пра радзіму. Адсюль апантанае жаданне зберагаць, збіраць архівы, каб… не згубіць сваё права на месца ў свеце. Засведчыць, што ты – ёсць. Ці хаця б быў.

Трапляюцца і загадкі: “Разглядаў калекцыю каштоўных старых манетаў ВКЛ з XVI-XVII стст. Заўтра мушу парабіць з іх адбіткі”, – гэта пра сустрэчу з Аўгенам Каханоўскім у Кліўлендзе ў сакавіку 1953-га. Сапраўднае прозвішча Аўгена – Калубовіч. У часы нямецкага панавання той меў доступ да музейных каштоўнасцяў у Мінску, дык… адкуль тыя манеты? Куды падзеліся пасля? Загадка. Не адзіная ў кнізе.

### “Я ўжо ў Беларусі”

Запруднік не мог паехаць у БССР нават у 1970-х, але шукаў любую інфармацыю адтуль: кнігі, прэсу, сведчанні. Высновы няўцешныя: гэта ўжо зусім іншы свет, а дакладней – два розныя сусветы, “там” і “тут”, паміж імі – прорва. Ён не мог зразумець, як у 1953-м на Будслаўшчыне маладыя студэнткі плакалі па смерці Сталіна. Тыя, відавочна, не зразумелі б яго…

Запрудніка шукалі. Дакладней, шукалі Вільчыцкага ці таямнічага Арсеня Загорнага (псеўданім на “Свабодзе”). Вось вясёлая гісторыя пра пісьменніка і рэдактара часопіса “Нёман” Яўгена Васілёнка. Той неяк прыехаў у Нью-Ёрк на асамблею ААН разам з іншымі прадстаўнікамі БССР. Ідучы ў рэстаран разам з Запруднікам і Кіпелем, літаратар пачаў распытваць: “Ці чулі вы пра эмігранта Вільчыцкага?..” Яго, маўляў, шукае маці, сумуе і плача.

Прозвішча было запісанае на паперцы: не цяжка здагадацца, па чыім заданні Васілёнак вышукваў канкрэтнага чалавека. Запруднік: “Быў нейкі Вільчыцкі ў Нью-Ёрку, але – з’ехаў”. Васілёнак супакоіўся і ўзяўся за абед, а пазней працягнуў пошукі ў Саўт-Рыверы.

Сваю маці Янка Запруднік ніколі не ўбачыў: яна памерла ў 1981-м. Дакрануцца да яе помніка атрымалася толькі ў 1990-х. Сам помнік быў падпісаны па-расійску: там, за акіянам, Запрудніку цяжка было ўявіць, наколькі далёка зайшла русіфікацыя ў БССР. Сваю першую паездку ў Беларусь пасля падзення “жалезнай заслоны” ён апісвае з захапленнем і – скрухай. Гэта іншы свет. Зусім іншы свет…

Янка Запруднік памёр у 2022 годзе. Паводле жонкі Надзеі, яго апошнімі словамі былі: “Я ўжо ў Беларусі”.

Алесь Кіркевіч, Budzma.org

in memoriam

# Вучыўся на ксяндза, працаваў на фуры, адкрыў хостэл для ўцекачоў. Гісторыя Андрэя Васоры

Беларускі палітуцякач трагічна загінуў у Беластоку ад атрыманай у канцы 2024 года траўмы. Яго знаёмыя расказалі, якім Андрэй Васора быў чалавекам і якія добрыя справы рабіў.



Ураджэнец Ліды Андрэй Васора памёр у Беластоку 20 студзеня. Ён пакінуў Беларусь пасля жорсткага затрымання. На новым месцы адкрыў хостэл, дзе бясплатна прымаў каліноўцаў і палітычных уцекачоў. Пасля няшчаснага выпадку памёр у Беластоку ва ўзросце 47 гадоў.

### Быў у рыцарскім клубе, гатаваў тартар

"Ягоныя бацькі былі простыя людзі, шчырыя вернікі. Дзядзька – ксёндз. Два браты яшчэ ёсць. Гэта вядомая сям'я ў Лідзе. Іх ведаюць як палякаў, бо яны падтрымлівалі польскую культуру, традыцыі. Проста свабодныя людзі. Ён вырас у вольнай сям'і, дзе чалавек шукаў іншых каштоўнасцяў, ішоў на захад", – расказала ў размове з "Радыё Свабода" знаёмая Андрэя Васоры з Ліды Ірэна (поўнага імя не называем з меркаванняў бяспекі. – РС).

Яна дадала, што Андрэй Васора быў харцэрам. Харцэрства – частка скаўцкага руху, якая ўзнікла ў Польшчы ў XIX стагоддзі. Грунтуецца на служэнні, самаўдасканаленні, працы над сабой і братэрстве. У больш сталым узросце Васора таксама быў сябрам рыцарскага клубу ў Лідзе.

"Вельмі любіў гатаваць. Такія сталы ўмеў накрыць! Заўсёды было смачна, прыгожа. Добра гатаваў тартар, розную бульбачку, шашлык. Мы часта прыязджалі да яго, сядзелі", – расказвае Ірэна.

### Вучыўся на ксяндза

Андрэй Васора некалькі гадоў вучыўся ў Гарадзенскай духоўнай семінарыі, збіраўся стаць ксяндзом. Але зразумеў, што гэта не ягоны шлях, выйшаў з семінарыі, стварыў сям'ю. Чалавек, які камунікаваў з Андрэем Васорам, калі той вучыўся ў семінарыі, на ўмовах ананімнасці расказаў, якім ён быў у той перыяд.

"Пакінуў яркія ўспаміны пра сябе як жыццярадасны, вясёлы, актыўны малады чалавек. Думаю, што часам ён быў, можа быць, і празмерна вясёлым. Ён не быў заўважаны як той, хто здольны зрабіць нейкае свінства. Быў сапраўдным чалавекам. Ёсць людзі штучныя, што начапілі на сябе маску, якія хочуць выглядаць у вачах іншых больш правільнымі, набожнымі, святымі. Ён не быў такім", – кажа суразмоўца.

Ён адзначае, што Андрэй не здолеў прайсці праз усе рамкі семінарыйнага, фармацыйнага жыцця.

### "Тапталіся па нырках"

У 2021 годзе Андрэя Васору жорстка затрымалі ў ягоным прыватным доме ў Лідзе. Захавалася відэа, дзе некалькі сілавікоў у рыштунку забягаюць да яго ў дом, кладуць гаспадара тварам у падлогу і чыняць допыт.

Ірэна адзначыла, што Васора ніколі не ўтойваў сваёй грамадскай пазіцыі "і гаварыў, і выходзіў". Ён сам расказваў жанчыне пра сваё затрыманне.

"Кажа: „Ведаеш, я заўважыў, што ўжо акружылі дом. Я тады схадзіў у прыбіральню. Бо для іх галоўнае, каб стаць на ныркі, каб усц**ся хлопец, у штаны нарабіў. Яны мне тапталіся па нырках і казалі: не даецца ніяк“. Ён не абсікаўся. Я гэта ад яго даведалася. Я ж не ведала, што так можа быць", – расказвае Ірэна.

Яшчэ адзін знаёмы Андрэя расказвае, што Васора любіў сваю Бацькаўшчыну Беларусь.

"Ён быў здольны вырвацца з польскага гарадзенскага і савецкага бэкграўнду. Яго „круціла“ ад двудушнасці некаторых святароў, як яны мяняюць Евангелле на палітычную дзейнасць, выступаюць на баку рэжыму. Вельмі негатыўна выказваўся пра палякаў, якім наяўнасць „карты паляка“ не перашкаджала браць удзел у знішчэнні польскіх магілак у Беларусі на загад рэжыму", – успамінае знаёмы.

### Прымаў каліноўцаў і ўцекачоў

Калі Андрэя Васору выпусцілі з-за кратаў, лідчук з'ехаў у Польшчу. Спачатку ў Востраў Мазавецкі пад Варшавай, а потым у Беласток. Ягоная жонка і непаўналетні сын засталіся ў Беларусі.

"Вельмі сумаваў па сям'і, па сыну. Ён увесь час плакаў ад гэтага", – успамінае Ірэна.

Падчас жыцця ў Беларусі Андрэй Васора працаваў дальнабойнікам. У Беластоку адкрыў хостэл "Сава". Знаёмыя расказваюць, што ён прымаў там бясплатна былых каліноўцаў, уцекачоў з Беларусі, дапамагаў людзям у патрэбе. Апошнія месяцы перад смерцю ў хостэле Васоры жыў невылечна хворы журналіст Вадзім Доўнар.

"Паўсюль стараўся дапамагаць, быў вельмі ахвярным чалавекам, вельмі файным. Бясплатна пускаў, калі каму трэба было. Ён казаў: „Мы маем быць салідарныя, дапамагаць адно аднаму“", – успамінае Ірэна.

Знаёмы Васоры ўспамінае, што той ездзіў на мітынгі салідарнасці беларусаў у Варшаву. Апошні раз – летась на Дзень Волі.

"Марыў пра тое, каб паехаць у Беларусь. Яму гэтая несправядлівасць балела", – кажа суразмоўца.

### Пахаваюць побач з бацькам

Летась перад каталіцкімі Калядамі Андрэй Васора падчас няшчаснага выпадку атрымаў траўму і праз нейкі час запаў у кому. Ён правёў у рэанімацыі 25 дзён, пасля чаго памёр 20 студзеня.

Развіталіся з Андрэем Васорам 25 студзеня ў Беластоку ў касцёле, дзе ён калісьці праходзіў практыку, калі вучыўся на святара, расказала Ірэна. Цела пасля крэмацыі плануюць прывезці ў Беларусь і пахаваць у Лідзе каля ягонага бацькі. Цяпер афармляюць неабходныя для гэтага паперы.

BySol адкрыў збор, каб аплаціць лячэнне і пахаванне Васоры. Паводле папярэдніх разлікаў, на гэта патрэбна 7 тысяч еўра.

svaboda.org

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2025 года

**2 лютага**
• 85 гадоў таму, у 1945-м, загінуў Валянцін Рамановіч, мастак.

**3 лютага**
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Уладзімір Шнэк (псеўд. Случанскі), вайсковы дзеяч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**4 лютага**
• 75 гадоў таму, у 1950-м, памёр Ян Булгак, фотамастак, этнограф.

**6 лютага**
• 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Валянцін Рабкевіч, літаратуразнавец, паэт.

**8 лютага**
• 215 гадоў таму, у 1810-м, нарадзіўся Іван Хруцкі, мастак. Памёр у 1885-м.

**10 лютага**
• 45 гадоў таму, у 1980-м, памёр Браніслаў Ржэўскі, літаратуразнавец.

**13 лютага**
• 320 гадоў таму, у 1705-м, нарадзілася Францішка Уршуля Радзівіл, пісьменніца. Памерла ў 1753-м.

**15 лютага**
• 110 гадоў таму, у 1915-м, памёр Раман Рагінскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**16 лютага**
• 135 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Франц Кушаль, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1968-м.
• 120 гадоў таму, у 1905-м, памёр Павел Баброўскі, гісторык, этнограф.

**18 лютага**
• 180 гадоў таму, у 1845-м, памёр Ігнат Анацэвіч, гісторык, археограф.

**19 лютага**
• 135 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Стаповіч), каталіцкі святар, паэт. Памёр у 1926-м.
• 120 гадоў таму, у 1905-м, памёр Якуб Наркевіч-Ёдка, прыродазнавец, вынаходнік, медык.
• 115 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Палікарп Манькоў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1998-м.
• 110 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Анатоль Бярозка (сапр. Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок), лекар, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 2008-м.

**20 лютага**
• 215 гадоў таму, у 1810-м, памёр Марцін Пачобут Адляніцкі, астраном.

**24 лютага**
• 265 гадоў таму, у 1760-м, памёр Мацей Догель, гісторык-археограф, правазнавец.
• 50 гадоў таму, у 1975-м, памёр Віктар Казлоўскі, паэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (272), студзень 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com